Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 43 Нядзеля, 9-га Лістапада 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Трэба лячыць балячкі.

Да нас паступаюць запросы з глухіх вясковых куткоў аб тым, калі-ж, нарэшце, можна будзе закладаць беларускія школы? Калі пачнуцца настаўніцкія курсы і г.д.

Заходзяць у Рэдакцыю і проста дэлегаты з месцаў, якіх вёска ў складчыну высылае сюды, ў цэнтр краёвага жыцьця, каб даведацца, што чуваць аб нашай нацыянальнай справе.

Вёска жыве сваім самабытным жыцьцём і моцна прыслухваецца да інфармацыяў у сваёй роднай прэсе аб тым, што пачнуцца нейкія зьмены на лепшае ў нашым нацыянальным жыцьці.

Нажаль, з вёскі да нас даходзяць бязумоўна чыстыя, ані не падфарбованыя сялянскія й інтэлігэнцкія весткі аб тым, што там у глухіх куткох дзеецца шмат недарэчнага.

Не хацелася-б гаварыць пра адносіны з паліцыяй, дзеля таго, што яны вельмі ўжо вядомы і аж надта высьветлены болей цьвярозаю ў сэнсе свайго нацыяналь-патрыятызму польскаю прэсаю.

Разьбіраючы недасканальнасьць паліцэйскага апарату, „Kurjer Porannу“ не далей, як 6-га гэтага лістапада даволі ўсебакова абгаварыў гэтае пытаньне ў вялікім перадавым артыкуле, азагалоўленым проста: „Dalsze milczenie byłoby tolerowaniem groźnego zła“. З гэтага артыкулу мы сёньня дзе-што перадрукоўваем у „аглядзе прэсы“ і на гэту тэму шмат гаварыць ня зьбіраемся.

Але вось непасрэдныя весткі з нашых вясковых куткоў аб палажэньні школьнае справы, напрыклад, у Горадзеншчыне:

У абсолютна-праваслаўным сяле, дзе ў часы расейскага панаваньня школа не магла зьмясьціць усіх жадаўшых вучыцца дзяцей, бо набіралася ў ёй, як з самога сяла, так і з ваколічных вёсак, да 300 вучняў, цяпер пустуе, дзеля таго, што прысланы туды невядома скуль польскі настаўнік, якога дзеці проста не разумеюць. Яшчэ з восені ў школе бывае тры-чатыры дзесяткі вучняў, а ў сярэдзіне школьнага сэзону, гэтак каля Каляд, застаецца ў школе чалавек .. пяць вучняў. За тры вярсты ад гэтага сяла ёсьць вялікая вёска, дзе перад самаю вайною быў збудованы новы школьны дом двухклясовае народнае школы. У вёсцы гэтай, таксама выключна праваслаўнай і беларускай, сядзіць польская настаўніца, якой дзеці яшчэ горш не разумеюць, як спамінанага вышэй настаўніка. І школа гэтак-жа сама амаль што пустуе.

Як у адным, так і ў другім выпадку насяленьне моцна думае аб роднай беларускай школе, але ранейшыя яго захады ў гэтым кірунку былі безрэзультатнымі і праз гэта яно й само ня ведае, што далей рабіць.

Насяленьне складаецца поўнасьцю з уцекачоў, якія вярнуліся з Расеі на свае зруйнованыя гаспадаркі. Эканамічна яно слабое і думаць аб залажэньні прыватнае беларускае школы на свой кошт яму ня прыходзіцца.

Аднак-жа, цікава, што дзеці па нейкіх сабраных, рознародных кніжках вучацца падаўнейшаму проста па хатах, значыцца, нелегальна, а ў польскія школы ня йдуць.

Ці-ж магчыма ў культурнай Польскай Рэспубліцы гэткае прыкрае зьявішча „самагоннае“ прасьветы?

Ці-ж не ляпей легалізаваць на дзеле, а ня толькі на паперы беларускія, патрэбныя насяленьню, школы?

Пяром гэткага вялікага польскага пісьменьніка, як Жэромскі, зафіксована тое, што было гэтак нядаўна ў самой шчырай конгрэсовай Польшчы ў сэнсе школаў.

Ці-ж з памяці польскага грамадзянства выляцелі ўжо апісаныя названым вядомым літэратарам эпізоды з жыцьця ніжэйшае і сярэдняе школы ў Польшчы, яскрава абрысованыя ў творы „Syzyfowe prace“, калі школьная справа ў сьвятой памяці „Привислинском краѣ“ была ў руках агідных пераконаных русіфікатараў з над Волгі, Обі і Енісея?

Мы ад'значалі ў сваёй газэце ўжо даўно, што расейская сыстэма дэнацыяналізацыі беларусаў была вельмі хітраю і пасвойму мудраю, аднак-жа яна не дасягнула стаўленае перад сабою мэты: з Беларускага Народу яна не зрабіла народу маскоўскага, ня гледзячы на поўную адсутнасьць у насяленьні пры царскім рэжыме тых палітычных правоў, якія разьвярнуліся перад намі, дзякуючы Польскай Конституцыі.

І паліцэйская і школьная, і ўся іншая сытуацыя на нашых няшчасных *крэсах* зьменіцца толькі ад простае, строгае, дэмакратычнае законнасьці. Ваенныя ды вынятковыя палажэньні — гэта нешта накшталт таго лякарства, якім зьяўляецца халодная вада, пушчаная на хворыя зубы: калі пусьцім на іх гэтую ваду, дык боль спачатку, як-бы й сьціхае, а пасьля?...

Не дарма-ж істнуе мудрая прыказка што „штыхамі можна шмат што зрабіць, толькі немагчыма на іх сядзець“.

Аб нашых тутэйшых балячках гаварыць абрыдла, іх трэба безадкладна і сьмела лячыць.

Ды лячыць, пэўна што, не абсаджваньнем польскімі настаўнікамі школаў, якія пустуюць, якія абураюць безработнае беларускае настаўніцтва, не асадніцтвам, якое толькі абурае беларускае малазямельнае сялянства ды бежанства ды не аднымі толькі над'звычайнымі мерамі адміністрацыйнае ўлады.

## Палітычны агляд.

Выбары прэзыдэнта Злучаных Штатаў закончыліся перамогай кандыдата рэспубліканцаў Куліджа, адтрымаўшага 343 галасы. Кандыдат дэмакратаў гэн. Доўс выбраны віцэ-прэзыдэнтам, адтрымаўшы 136 галасоў. Кандыдат трэцяе партыі, аграрна-рабочай сэнатар Ляфолет праваліўся, адтрымаўшы ўсяго толькі 13 галасоў з агульнага ліку 531. Гэткім чынам адносіны ліку галасоў, паданых за кандыдатаў у прэзыдэнты трох амэрыканскіх партыяў, надта напамінаюць адносіны партыйных сіл у новай ангельскай палаце. Як тут, так і там апынуліся пераможцамі правыя партыі, ў Англіі консэрватары, а ў Амэрыцы рэспубліканцы.

Перамога рабочай партыі ў Англіі, або ў Амэрыцы азначала-б зварот да бальшавізму. А ўвесь сьвет годзі ўжо пераканаўся на прыкладзе Расеі, што значыць бальшавізм, пабачыўшы да чаго ён можа давясьці край. Дзеля гэтага выбаршчыкі вялізнай большасьцю галасавалі за правыя партыі і іх кандыдатаў, каб гэтым абясьпечыць унутраны мір у краі і не падстаўляць дзяржаву на соцыялістычныя экспэрымэнты.

Апрача выбараў прэзыдэнта і віцэ-прэзыдэнта ў Злучаных Штатах яшчэ адбываліся выбары 32 сэнатараў, 435 паслоў конгрэсу і 34 губэрнатараў. Судзячы з рэзультатаў выбараў прэзыдэнта, можна дагадацца, што рэспубліканцы з дэмакратамі будуць, як раней граць галоўную ролю. Розьніца між аднымі і другімі надта невялічкая, шмат меншая, чымся між консэрватарамі і лібэраламі ў Англіі. А, дзякуючы таму, што прэзыдэнтам выбраны рэспубліканскі кандыдат Кулідж, а яго намесьнікам кандыдат дэмакратаў гэн. Доўс, зусім абясьпечана супрацоўніцтва дзьвёх асноўных партыяў і няма ніякае небясьпекі з боку партыі трэцяй.

А што датычыцца заграніча-амэрыканскай палітыкі, якая цікавіць Эўропу найбольш, дык яна будзе весьціся ў тым-жа самым напрамку, які ёй даў Кулідж у часе свайго прэзыдэнства, толькі яна будзе цяпер больш рашучай. Прэзыдэнт Кулідж ёсьць яўны праціўнік згоды з бальшавікамі і ўваходу ў Лігу Народаў. Ен катэгорычна выказаўся за аграніченьне ўезду ў Амэрыку і дзеля гэтага не падпісаў аднослага закону конгрэсу, які даваў вялізныя палёгкі для эмігрантаў. Гэткім чынам новы кліч „Амэрыка для амэрыканцаў“ будзе праводзіцца з большай сілай. Але гэта ня выключае магчымасьці супрацоўніцтва Амэрыкі з іншымі часткамі сьвету, а асабліва з Эўропай, якой патрэбны амэрыканскія капіталы. Выбары гэн. Доўса на пасаду віцэ-прэзыдэнта тым балей абясьпечваюць гэтае супрацоўніцтва Амэрыкі з Эўропай, дзеля каторага асновай будзе ягоны рэпарацыйны плян. Цяпер будучы самым блізкім памоцнікам і намесьнікам прэзыдэнта, Доўс будзе імкнуцца да правядзеньня ў жыцьцё гэтага пляну.

З боку Англіі, Нямеччыны і Францыі Кулідж спаткае падмогу ў сваіх імкненьнях. Толькі француска-савецкае збліжэньне ўносіць нейкі дысонанс у гэту гармонію, ўстанавіўшуюся між Амэрыкай і Эўропай пасьля лёнданскай конфэрэнцыі. Але гэту перашкоду лёгка абмінуць, дзеля таго, што самая Францыя ў канцы канцоў дайдзе да розуму і ня будзе псаваць заснаваўшыхса добрых адносін з Амэрыкай, дзеля няпэўных пэрспэктываў у С. С. Р. Р. Ад гэтай небясьпекі Францыя павінна будзе адкараскацца пад уплывам Англіі і Амэрыкі, якія граюць галоўную ролю у сусьветнай палітыцы. Затое з боку С. С. Р. Р. трэба спадзявацца новых нападаў на свайго непрымірымага ворага. У Эўропе бальшавікі, ведама, ня змогуць

Можна было на ўсё гэта глядзець з паблажкай, пакуль была вера, што ў радох паліцыі ёсьць нейкі лік людзей са шляхотнымі мэтамі даць дзяржаве энэргічны чэсны і сьмелы орган бясьпечнасьці. Цяпер гэта вера прападае, а зьяўляецца думка, што паліцыя перастае быць чыньнікам ладу і бясьпечнасьці, а робіцца крыніцай нездаволеньня і жальбаў. Амаль што ня кожны дзень дае нам новыя факты, якія сьведчаць, што дзяржаўная паліцыя знаходзіцца ў стане бязглуздзьдзя.

Далей аўтор, пачынаючы ад здарэньня са „слаўным“ камэндантам Мэнсовічам, дае рад фактаў гэтай бязглуздасьці, а ў канцы робіць гэткія вывады:

... трэба глянуць праўдзе ў вочы. Павядзеньне паліцыі выклікае нездаволеньне, нараканьні і скаргі сярод шырокіх масаў насяленьня, асабліва вясковага...

Будзе надта дрэнна, калі мы не пастараемся, каб гэты прадстаўнік улады не паяўляўся на людзях нецьвярозы, каб ня быў знаны добрымі адносінамі з элемэнтамі дрэннага павядзеньня, каб ня быў страхацьцём для людзей працавітых, якія любяць спакой і законнасьць.

Паліцыя толькі тады будзе магчы ўдачна змагацца з ліхадзействам і антыдзяржаўнай дзеяльнасьцю, калі сваім добрым павядзеньнем заслужыць у грамадзянства пашану і сымпатыю, дзеля таго, што толькі тады знайдзе з боку грамадзянства шчырую падмогу ў барацьбе з усялякім ліхадзействам.

Хто-як-хто, а праўду гэтых слоў вёска беларуская адчувае найлепш.

Аўтор канчае гэтак:

Паліцыя, якая перастае быць пагрозай для ліхадзеяў, а дакучае спакойнаму насяленьню, якая грамадзян, над каторымі сама зьдзекуецца, цягне пад суд за спраціўленьне ўладзе, гэткая паліцыя з органу бясьпечнасьці робіцца прычынай агульнага нездаволеньня і падгатаўляе адпаведны грунт для варожай дзяржаве пропаганды.

Шмат на гэту тэму польская левая прэса піша, а дагэтуль папраўы з гэтага боку нямашака.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не паляну́йся прачытаць няпісьменнаму!*

# ПА СЬВЕЦЕ.

## Будова цэпэлінаў у Гішпаніі.

5-га гэтага лістапада ў гішпанскай сталіцы Мадрыдзе падпісаны дагавор аб пераносе майстроўняў з Фрыдрыхсгафэну ў Сэвільлю. Зараз-жа пасьля пераносу майстроўняў пад кіраўніцтвам нямецкіх інжынераў пачнецца будаваньне 4-х вялікіх цэпэлінаў разьмерамі ў 130.000 кубічных мэтраў, якія змогуць рабіць прастор у 25.000 кілёмэтраў. Дзеля фінансаваньня прадпрыемства заклаўся пад протэктаратам гішпанскага караля консорцыум з капіталам у 90 мільёнаў пэзэтаў (пэзэта—франк). Першы пералёт назначаны на 1927 год паміж Сэвільляй і Буэнос-Айрэсам.

## Паводка на Рэйне.

Як паведамляюць з Бэрліну за 5-XI, катастрофа паводкі на Рэйне прымае з кожным днём усё большыя ды большыя разьмеры. Усе рэкі выйшлі з берагоў, размыўшы дамбы й заліваючы месты й сёлы. Матар'яльная шкода вялізная. Дюізбург саўсім заліты вадою. У Візбадэне размыта чугунка. У Кэльне вада прыбывае штогадзіны. Некаторыя кварталы саўсім заліты. Чугуначны рух саўсім спынены. У Кэнігсьвінтэры заліта ўся чугуначная лінія. У Рэмагэне заліты докі. Заліты вадою таксама Коблепц і Рэн. Насяленьне ў паніцы разьбягаецца, пакідаючы абшар, заліты вадою.

## Цікавая мільянэрка.

Нядаўна ў адзін з лёнданскіх шпіталяў была прывезена старая жанчына пані Клярк. Яна была ледзь што ў няпрытомным стане. Адміністрацыя шпіталю зьвярнулася ў паліцыю з просьбаю знайсьці якіх-нібудзь яе сваякоў. Паліцыя пайшла да яе на кватэру і тут выкрыла цэлы скарб.

Дом, у якім жыла пані Клярк, — дарэчы сказаць, поўспараліжаваная ўжо ў працягу некалькіх гадоў, — складаўся з 4-х паверхаў. У ім дванаццаць пакояў. Непарадак, які ў іх пануе, немагчыма апісаць. Усюды нячыстоты, гразь, слой пылу, які паказвае, што ўжо некалькі гадоў, па крайняй меры, там не падмятана; шмат густога павуценьня. Але ўсюды найкаштоўнейшыя мэблі, старадаўнія малюнкі. У аднэй з шафаў паліцэйскія знайшлі некалькі вялізарных пакетаў з папяровымі грашыма, перавязаных шпагатам і абмотаных граззнымі ганучкамі. Усе банкноты па 100 фунтаў штэрлінгаў. Тут-жа некалькі старых кубарак ад консэрваў з залатымі монэтамі. Пад пасьцеляй у гразным порці ізноў 100-фунтовыя банкноты. На падстрэшшы сярод нязьлічанае колькасьці старых шаўковых вопратак, пашытых, прынамсі, 80 гадоў назад, знайшлі масу пісьмаў і дакумэнтаў, якія сьведчаць аб тым, што пані Клярк уладае цэлым радам дамоў, двароў і прамысловых прадпрыемстваў. Агулам знайдзеная маемасьць ацэньваецца ў некалькі мільёнаў фунтаў штэрлінаў (адзін фунт штэрлінгаў раўняецца $9\frac{1}{2}$ залатым рублём).

## Паводкі ў Францыі.

Паводлуг паведамленьня з Парыжу, з розных частак Францыі прыбываюць весткі аб вялікіх паводках. Каля Сэдану, Марна выйшла з берагоў і заліла вялікія абшары. Пагражае паводка таксама і Парыжу. Вада ў Сэне ўжо паднялася да вялізнае вышыні. Пасьля паводкі ў 1910 годзе гарадзкія ўлады патрацілі вялізныя грошы на збудаваньне дамбаў. Дзеля гэтага спадзяюцца, што да катастрофы не дайдзе.

## Самагубствы ў Бэрліне.

Нямецкая прэса займаецца ўсё падрастаючым лікам самагубстваў у Бэрліне. У першым тыдні кастрычніка статыстычнае бюро занатавала 40 выпадкаў. Вядомы псыхолёг прафэсар Desoir прыпісвае гэткі вялікі лік самагубстваў, асабліва сярод моладзі, таму, што падчас вайны блага былі кормлены дзеці, што павяло да невытрываласьці нэрваў.

# У С. С. Р. Р.

## Суд над атаманам Хмараю.

Маскоўская радыястанцыя паведаміла, што ў **Віньніцы** (на Украіне) адбыўся суд над вядомым украінскім паўстанцам Хмараю, таварышам атамана Цюцюніка. Хмара прызнаўся да контр-рэвалюцыйнае дзейнасьці і засуджаны на вышэйшую меру кары.

## Контр-рэвалюцыя ў эканоміцы.

Адэскае ГПУ падняло справу проці трэсту „Элэктрометал“, ў склад якога ўваходзіць 7 фабрык, за эканамічную контр-рэвалюцыйную дзейнасьць. Кіраўнік трэсту інжынер Шарай пасаджаны ў вастрог. ГПУ закідае яму, што кіраваў ён справамі трэсту тэндэнцыйна блага, што кваліфікована бальшавікамі, як контр-рэвалюцыйная праца.

## З фінансамі не саўсім добра.

Паводлуг вестак з Масквы, на паседжаньні пленуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту камісар фінансаў Сакольнікаў у доўгай прамове заявіў, што паступленьне аднага зямельнага падатку ў цяперашні час зьяўляецца мінімальным і што з гэтае прычыны фінансавае палажэньне саветаў ў 1925 годзе значна пагоршыцца, калі ў працягу апошніх двух месяцаў сёлетняга году ўплыў падаткаў не павялічыцца.

# Жыцьцё провінцыі.

## Наваградак.

4-га і 5-га гэтага лістапада пад старшынствам ваяводы гэнэрала Янушайціса адбыўся зьезд павятовых старастаў Наваградзкага ваяводзтва. На зьезьдзе абгаварваліся пытаньні ўнутранае бясьпечнасьці і вартаваньня граніцы пагранічным корпусам. Апрача таго, разглядалася сельска-гаспадарчае пытаньне і пытаньне аб ахове здароўя ў сувязі з бюд'жэтам соймікаў на 1925 год.

брудны, пабіты, ня ведаючы, дзе ён і чаго ад яго хочуць... Як-жа ж тут судзіць гэткую беднату, якая мае дзесяць гадоў і ледзь на нагах трымаецца? У вастрог яе ўсадзіць, ці што?.. Трэба-ж крыху мець літасьці над дзяцьмі. Хай яго возьме стораж, хай дасьць яму розгаў, каб другі раз ня краў — вось і ўсё.

— Ну, ведама!

Паклікалі Стасюка, які быў сторажам:

— Вазьмі яго і ўсып яму на памятку!

Стасюк кінуў сваей дурнаватай галавой, узяў Янку пад паху, быццам нейкага кацёнка, і панёс да пуні. Дзіця або ня ведала, што з гэтага будзе, або спалохалася, бо не сказала ні слова, толькі глядзела, як птушка. Скуль ён мог ведаць, што з ім будуць рабіць? І толькі тады, як Стасюк у пуні ўзяў яго жменяй, расьцягнуў на зямлі і, задзёршы сарочку, махнуў з размахам, толькі тады Янка крыкнуў:

— Мамка! — і пасьля кожнай розгі ўскрыкваў: „Мамка! мамка!“ але ўсё цішэй, слабей, ажно пасьля зусім дзіця сьціхла і ня клікала ўжо мамкі...

Бедная, паломаная скрыпка!...

— Эй, дурны, злы Стасюк! Як-жа ж можна гэтак біць дзяцей? Дык-жа гэта малое, слабое і заўсёды было ледзь жывое.

Прыйшла маці, ўзяла хлопчыка, але павінна была нясьці яго да хаты... На другі дзень Янка ня ўстаў, а на трэці ўвечары спакойна канаў на тапчане пад вясковай посьцілкай.

Ластаўкі чыркалі ў цярэшні, якая расла перад прызьбаю; сонечныя косы прабіваліся праз шыбу і пакрывалі залатым сьветам раскудлачаную галоўку дзіцяці і твар, у якім не засталося ані каплі крыві. Гэтыя косы былі як шлях, па якім мелася адыйсьці душа хлопчыка. Добра, што хаця ў мінюту сьмерці йшла шырокай сонечнай дарогай, бо ў жыцьці йшла ўзапраўды цярністай. А ў той час упалыя грудзі яшчэ дыхалі, а твар дзіцяці быў, як заслухаўшыся ў гэтыя галасы вёскі, якія ўрываліся праз адчыненае вакно. Быў вечар, дык дзяўчаты, варочаючыся з поля, пялі: „Ой, пайду я лугам, лугам!“ а ад рэчкі далятаў голас жалейкі. Янка апошні раз услухоўваўся, як грае вёска... На посьцілцы каля яго ляжала ягоная скрыпка з гонта.

Раптам твар паміраўшага дзіцяці праясьніўся, а з пабялеўшых вуснаў вылецеў шэпт:

— Мамка!...

— Што, сынок? — спыталася маці праз здушаныя сьлёзы.

— Мамка! Ці Божанька дасьць мне ў небе запраўдную скрыпку?

— Дасьць, сынок, дасьць! — адказала маці; але не магла гаварыць, бо раптам з яе грудзей вырвалася накіпеўшая жаласьць, дык, застагнаўшы толькі: „О, Божухна мой!“ упала тварам на куфар і пачала раўсьці, быццам утраціўшы розум, або як чалавек, які бачыць, што ня вырвець ад сьмерці таго, каго любіць...

І ня вырвала яго, бо, калі падняўшыся, ізноў зірнула на дзіця, дык вочы малога музыкі былі, праўда, расплюшчаныя, але непарушныя, а твар вельмі паважны, сумны і адзірванеўшы. Сонечныя косы адыйшлі таксама...

Сьпі спакойна, Янка!

* * *

На другі дзень вярнуліся ў двор паны з Італіі, разам з паненкай і кавалерам, які да яе падлабуніваўся. Кавалер казаў.

— Quel beau pays que l'Italie! *)

— І які народ мастакоў! On est heureux de chercher la-bas de talents et de les protéger... **) — дакінула паненка.

Над Янкай шумелі бярозы...

*Пералажыў* **Ю. М.**

*(Канец).*

*) Які прыгожы край Італія!

**) Гэта шчасьце шукаць там таленты і протэгаваць іх.

